# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Віленская вул. **33.** Рэдакцыя адчынена: **12—1** штодня апрача сьвяточных дзён.

**Цана кожнага нумару 10 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 150 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: 50 м. за радок пэтыту (на апошн. стр.).

**Год I. Вільня. Пятніца, 19 жніўня 1921 г. № 8.**

# Ізноў да жыцьця.

Незалежныя ад нас прычыны змусілі нас перарваць выданьне часопісі на досіць даўгі кавалак часу.

Цяпер, калі не зьяўляецца ў сьвет ніводная беларуская часопісь, якая друкавалася-б гражданкаю і была-б больш даступнаю вялізнай масе беларускіх чытачоў, мы лічылі-б проста за праступак перад родным народам, каб гэткае палажэньне цягнулася й далей, няма ведама да якога часу.

Вось дзеля таго, каб надалей ня было парожняга месца ў беларускай газэтнай справе, каб не падумалі ўсе добрыя людзі, што справа гэтая ніяк ня можа жыць, мы і лічым за свой грамадзянскі абавязак аднавіць выхад у сьвет нашае часопісі.

Мы моцна верым, што беларуская маса чытачоў выкажа нам шчырае падтрыманьне і не адмовіцца прысылаць у нашу рэдакцыю весткі аб жыцьці ўсіх куточкаў нашага краю, дзе толькі жыве наш Беларускі Народ, дзе толькі чуецца наша родная мова.

Самая моцная сувязь з чытачамі зможа даказаць усім і кожнаму, што наша горкая беларуская доля ня можа атруціць нас насьмерць і што мы ніколі ня трацім веры ў лепшую будучыну.

А будучына гэта ня можа прыйсьці без таго, каб Народ Беларускі не зрабіўся, нарэшце, сам гаспадаром у сябе ў хаце, каб не заслужыў ён поўнае пашаны да сваіх правоў, перш за ўсё, збоку сваіх найбліжэйшых суседзяў.

Дый чаму-ж гэта дасюль ня маем мы лепшае долі, ня бачым поўнага нацыянальнага жыцьця роднага народу?

Хіба-ж народ наш залазіў калі ў чужую хату? Хіба ня мае ён права на гэткае самае вольнае жыцьцё, як і кожны іншы народ?

Не! Беларусы—людзі і ўсе людзкія правы яны маюць. А вось ня маюць яны дасюль сілы бараніць і аберагаць свае правы, каб карыстацца імі нароўні з іншымі.

Праз гэта ўсё нам трэба гуртавацца.

Трэба гарнуцца да сваіх нацыянальных арганізацыяў, лавіць кожнае роднае друкованае слова і зьбіраць свае сьвядомыя нацыянальныя сілы ў адну братэрскую граmаду.

Бо калі мы самі аб сваіх інтарэсах не парупімся, дык не парупіцца аб іх ніхто.

Мы павінны памятаць, што, калі толькі прачнуўся да сьвядомага жыцьця Беларускі Народ, выйшаўшы з расейска-царскага вастрогу, дык рух беларускі падняў на сваіх хвалях самыя сьветлыя ідэалы дэмакратызму, справядлівасьці, волі і роўнасьці.

Нажаль, не хапіла ў нас сілы правясьці ў жыцьцё хоць-бы й не maximum таго, аб чым гаварылі нашы беларускія лёзунгі.

Але-ж гэта ня значыць, што лёзунгі нашы былі няжывымі. Рух наш расьце і пашыраецца сярод усяе шматмільённае народнае масы, ня гледзячы на тое, што шмат гэты рух мае перашкодаў на шляху свайго разьвіцьця.

Падзел Беларусі і ўлучэньне беларускага насяленьня ў розныя дзяржаўныя арганізмы, стварэньне бальшавікамі „Савецкай Беларускай Рэспублікі“ з некалькіх паветаў аднае губэрні, бесканечная калатня з-за Віленшчыны — ўсё гэта найлепшы доказ нашага ненормальнага палажэньня, ненормальнага жыцьця.

Калі і ў сучасных варунках мы ня страцім здольнасьці быць вернымі сваім ідэалам, дык не сягодня-заўтра ідэалы гэтыя пачнуць прымаць рэальныя, жыцьцёвыя формы.

**Рэдакцыяй „БЕЛАР. ЗВОНУ“, запрошаны новыя супрацоўнікі і з чароднага нумару часопісь наша пачне выходзіць у большым разьмеры.**

## Констытуцыя Югаславіі.

Летам гэтага году югаславянская скупшчына (парлямэнт) прыняла дзяржаўную констытуцыю, г. зн. законы, на аснове якіх будзе жыць новая, паўстаўшая пасьля Вэрсальскага міру, сэрба-хорвацка-славенская дзяржава—Югаславія.

У аснову гэтай дзяржавы лягло істнаваўшае да вайны каралеўства — Сэрбія Харваты і Славенцы да канца вайны был

пад аўстрыяцкім гнётам і толькі пасьля аканчальнага разгрому аўстрыяцкіх і нямецкіх арміяў змаглі аб'яднацца з Сэрбамі. Не прашкодзіла гэтаму аб'яднаньню ні тое, што Харваты і Славенцы жылі доўгі час пад чужацкім аўстрыяцка-нямецкім культурным уплывам і ўціскам, ні тое навет, што Харваты і Славенцы пераважна каталікі, а Сэрбы—праваслаўныя. Наадварот,— усе тры народы зьліліся ў адзін жывы арганізм, адну дзяржаву, зразумеўшы, што лепш паступіцца на карысьць агулу, прыватнымі інтарэсамі, ніж дабіцца на час поўнай незалежнасьці і потым ня ўтрымаць яе сваімі слабымі паадзінчымі рукамі. Сэрбскі народ, геройска вынесшы на сабе ўвесь цяжар барацьбы з аўстра-гэрманцамі за незалежнасьць,па праву карыстаецца гэгэмоніяй у новай дзяржаве, гэгэмоніяй ня ў сэнсе ўціску Харватаў і Славенцаў, а ў сэнсе наданьня маладой дзяржаве сілы і цьвёрдасьці „царства Душана".

Аўторам прынятай конституцыі зьяўляецца старшыня Сэрбскага Ураду — Пашыч — лідэр партыі сэрбскіх радыкалаў, наймагутнейшы на Балканах чалавек, рэдкай па сіле індывідуальнасьці, які ў працягу сусьветнай вайны і цяпер шчасьліва кіруе доляю сэрбскага народу.

На яго жыцьцё, ў самы дзень 29 чэрвеня, пасьля прысягі рэгента сэрбскага прэстолу Аляксандра на вернасьць конституцыі, адбыўся напад,—трэці ў працягу апошніх двох гадоў. Пашыч астаўся цэлым і жывым.

Хто, якой партыі, ці арганізацыі быў чалавек, кінуўшы бомбу, сказаць ня лёгка, бо тэлеграф обвінавачвае камуністаў, а польскія газэты (Rzeczpospolita) — элемэнты, нездаволеныя конституцыяй. Аднак, з пэўнасьцю можна сказаць, што ворагам новай сэрбскай дзяржавы і конституцыі, кто-б яны ні былі, ня удасца іх шкодная праца, бо Югаславія пабудована на цьвёрдым грунце сваяцтва і згоды блізкіх па крыві народаў, вызваліўшыхся дарогаю ўпартай барацьбы з-пад чужацкай няволі і самахвоць аб'яднаўшыхся ў югаславянскую дзяржаву.

Мы, беларусы, ад душы жадаем Югаславіі шчасьця і росквіту.

## Да зямельнае рэформы ў „Сярэдняй Літве". *)

Зямельная справа ў нашай Бацькаўшчыне здаўна стаіць даволі востра. І хоць польскія эканамістыя казённага тыпу ўсьцяж крычаць на ўвесь сьвет аб вялізарных зямельных абшарах у Беларусі, прыгодных да колёнізацыі,—як раз істнаваньне такіх абшараў і становіць прычыну вострасьці ў нас зямельнага пытаньня: яны—ў руках панскіх двароў.

Ня галячыся на тое, каб даць абраз палажэньня гэтага пытаньня ўва ўсёй Беларусі, мы пакуль-што затрымаемся на зямельных адносінах у Віленшчыне.

Перш за ўсё возьмем даныя аб зямельнай уласнасьці сялян на гэтым абшары. Паводле ўрадовай статыстыкі ў 1907 годзе (Крестьянское землевладѣніе Виленской губ. — „Виленскій Временникъ" кн. III — 1909 г. Вильна), ў Віленшчыне ў 1909 годзе было 174.399 сялянскіх гаспадарак, спаміж каторых мелі зямлі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| менш за 1 дзесяц. | — | 14.698 | (або 8,32%) |
| ад 1 да 2 | „ — | 24.644 | (або 14,14%) |
| ад 2 да 3 | „ — | 22.422 | (або 12,90%) |
| і больш за 3 | „ — | 112.635 | (або 64,64%) |

Выходзіць, што 61.764 сялянскія гаспадаркі маюць менш, чым па 3 дзесяціны, што становіць 35,36% агульнага ліку іх. „Шчасьлівейшых", якія маюць больш за 3 дзес., ўрадовая статыстыка налічвае 112.635 гаспадарак. Але, калі прыпомнім сабе, ў якім стане знаходзіцца наша сялянская гаспадарка наагул, ды што пры слабым яе разьвіцьці зямля таксама тут даволі благая,—дык і гэных „шчасьлівейшых", што маюць тры і больш дзесяцін зямлі, нельга лічыць „здаволенымі" зямлёй і добрую палову гэтых гаспадарак трэба далучыць да ліку маламерных.

Каб даць больш яркі абраз абясьпечаньня зямлёй сялян у Віленшчыне, падаю тут падробную табліцу разьмераў сялянскіх гаспадарак паводле паветаў:

*) У віленскіх польскіх газэтах была надрукована вестка аб тым, што „Тымчасовая Урадовая Камісія Сярэдняе Літвы" прыступіла да зямельнае рэформы, распачаўшы яе ад скарбовых зямель. Каб паказаць, якую вагу можа мець разьдзел скарбовых зямель для нашага сялянства, друкуем гэту спрэўку, якая становіць частку вялікшага досьледу аб зямельным пытаньні ў Віленшчыне.

*Рэд.*

---

Францішк Аляхновіч.

## НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

(Гл. № 7).

ВАСІЛЬ. Калі-б усе людзі думалі так, як ты, дык жыцьцё замёрла-бы, навет зямля перастала-б круціцца Калі-б Колюмб плыў туды, гдзе большасьць, дык не адкрыў-бы Амэрыкі, Магамэт, калі-б цябе паслухаўся, не стварыў-бы новай рэлігіі, Шварц, калі-б жыў паводле твае рэцэпты, дык-бы ня выдумаў пораху... Хто хоча нешта пакінуць новым пакаленьням, хай плыве проціў цячэньня!... Сягоньня нас аплёўваюць сьмехам і абкідаюць каменьнямі, а пасьля сьмерці будуць ставіць нам памятнікі...

КОСТУСЬ. А! вось, куды мы заехалі!... Гэта ўсё робіцца, значыцца, для пасьмяротнага памятніка? Ха-ха-ха...

ВАСІЛЬ. Ну? чаго сьмеешся? А калі-б навет і так? Ад лёсу свайго трэба вымагаць многа. Бо калі твае лятуценьні не палятуць далей поўнай міскі стравы, дык лёс нічога больш, апрача дзіравых ботаў і латаных парткоў табе ня дасьць, і навет пасьля сьмерці застанецца табе імя галадранца.

КОСТУСЬ. Ну, але конкрэтна: куды-ж ты йдзеш? Ты кідаеш багатую культуру, якая сотні гадоў разьвівалася і хочаш ісьці туды, дзе людзі навет імя сваё запомнілі... Наш народ яшчэ аб сабе нічога не сказаў.

ВАСІЛЬ. Стой, чакай, браток! Што скажа сьвету наш збудзіўшыся ад векавога сну народ гэтага ня ведаеш ані ты, ані я... Я веру ў адраджэньне свайго народу, як сярэднявяковыя рыцары, ішоўшыя ў крыжавы паход, верылі ў справядлівасьць свае справы. Я веру—а вера робіць цуды. Народ наш праз шмат гадоў аддаваў свае лепшыя сілы на службу чужынцам, узбагачваючы гэтак чужыя культуры, але, калі ён пачне жыць сам для сябе, тады ў хуткім часе багата закрасуецца наша культура... Быў час, калі беларускіх адраджэнцаў была толькі малюсенькая жменька, але яны верылі ў сваю справу і стаўся цуд!... Цяпер—грамада!... Але чаго-ж ты ізноў сьмяешся? Усялякія новыя клічы кідаюць у народ ня масы, а паадзінокія людзі,—масы толькі пасьля йдуць за імі. Але дзеля гэтага трэба мець веру ў сваю ідэю—і ўскалыхнеш народ!

КОСТУСЬ. Дзіця ты! Выгадаванае ў гарадзкіх сьценах дзіця! Ты ня ведаеш народу, ніколі ты ня быў на вёсцы, глянь! Ідзі на вёску, глянь! Папробуй там казаць аб Беларусі, аб бацькаўшчыне—усе падумаюць, што ты з глузду зьехаў. І ніколі не даб'ешся там нацыянальнай сьвядомасьці, бо калі хто каталік, дык скажа табе: я „польскі", а калі праваслаўны— дык: я „рускі". Нацыянальныя паняцьці у галаве селяніна пераблуталіся,—ён ведае толькі адно, што ён — „тутэйшы".

ВАСІЛЬ. Але, вось-жа гэтая яго „тутэйшасьць" і давядзе яго да нацыянальнай сьвядомасьці, бо ён,

| У паветах: | Лік фактычна істнуючых гаспадарак: | Лік гаспадарак, якія маюць зямлі. | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Менш. за 1 дзес.: | 1—2 дзес.: | 2—3 дзес.: | Больш за 3 дзес.: |
| Віленскі . . . | 25.172 | 480 або 1,9% | 1.567 або 6,2% | 2.434 або 9,6% | 20.691 або 82,1% |
| Сьвянцянскі . | 23.233 | 1.361 —5,85% | 968 —4,16% | 1.889 —8,12% | 19.015 —81,84% |
| Лідзкі . . . | 23.403 | 837 —3,57% | 826 —3,52% | 2.218 —9,47% | 19.522 —83,42% |
| Троцкі . . . . | 23.698 | 1.219 —5,14% | 1.289 —5,43% | 1.973 —8,32% | 19.217 —81,09% |
| Дзісьненскі . . | 24.143 | 4.209 —17,43% | 8,739 —36,19% | 4.750 —19,67% | 6.445 —26,69% |
| Ашмянскі . . | 29.732 | 6.056 —20,36% | 10.220 —34,37% | 6.428 —21,61% | 7.028 —23,63% |
| Вялейскі . . . | 25.018 | 536 —2,14% | 1 035 —4,13% | 2.730 —10.91% | 20.717 —82,80% |

Ужо з гэтых табліц відаць, што дзеля здаволеньня зямлёй нашага малазямельнага сялянства (ня кажучы ўжо аб безьзямельніках, аб якіх мы акуратных ведамасьцяў ня маем!) патрэбен надта вялікі запас зямлі. Зямлі, якая ўжо цяпер становіць усенародную маемасьць: гэта – зямлі скарбовай, — у Віленшчыне было і ёсьць надта мала. Вось урадовыя цыфры („Обзоръ Виленской губ. за 1908 годъ“. Друк. па загаду віленскага губэрнатара. Вільня 1909.):

у канцы 1908 году ў межах Віленшчыны належала да скарбу:

лесу . . . . . . 255.712 дзес.
ральлі, пад млынамі, пляцаў і т. п. 12.778 „
рыбных вазёр . . 9.077 „
няўжыткаў . . . 34.851 „

Разумеючы, што нельга-ж нішчыць нашага найвялікшага багацьця: лясоў,— застаецца скарбовае зямлі, прыгоднай дзеля гаспадаркі, ўсяго толькі 12.778 дзес. Ведама, гэта нікога і нічога не паратуе. Значыць, пры зямельнай рэформе ўвесь цяжар павінен быць перанесены на панскія, дворныя абшары, якія ў Віленшчыне занімаюць больш за $1^1/_2$ мільёна дзезяцін.

Г. Б.

# З прэсы.

## „Сумерки П. П. С.“

У зьвязку з нядаўным 18-м конгрэсам П. П. С. і прынятымі там рашэньнямі пад гэткім загалоўкам львоўская газэта «Прикарпатская Русь» зьмяшчае ў адным з сваіх нумароў перадавы артыкул за подпісам К. В., у якім кажа:

«Быў час, калі польская партыя соцыялістаў (P. P. S.) нясла высока сьцяг рэвалюцыйнага соцыялізму. Галосячы аб ідэі незалежнае Польшчы і боручыся актыўна за зьдзейсьненьне гэтае ідэі, яна мела ўсе спагадныя умовы, каб у момэнт, калі будавалася новая польская дзяржава, згуляць у гэтым будаўніцтве галоўную, творчую ролю.

Быў адзін момэнт у самым пачатку істнаваньня новае польскае дзяржавы, калі здавалася, што гэтак і будзе: на пастох галавы дзяржавы і шэфа першага кабінэту апынуліся соцыялістыя.

Нажаль, у гэты першы спагадны момэнт польскія соцыялістыя

---

у канцы канцоў, зразумее, што і польскі пан, і расейскі чыноўнік—людзі тут чужыя, а ён—гэты тутэйшы беларускі мужык—гаспадар свае зямлі.

КОСТУСЬ. Нічога гэтага ня будзе! Адзін захоча зрабіцца падобным да пана, другі да чыноўніка, бо яны тут прадстаўнікі вышэйшай культуры, і аддасьць душу сваю ў вечны палон—адзін аднаму, другі другому. Нічога на гэта не парадзіш.

ВАСІЛЬ. Вось-жа ўся штука ў тым, каб не даць душы ў палон!

КОСТУСЬ. Вы гэта патрапіце? Хэ-хэ!

ВАСІЛЬ. Мы ў гэта верым!

КОСТУСЬ. Скуль сілы на гэта?

ВАСІЛЬ. Сіла—наша вера. Вера такіх, як Багдзевіч, як я, як іншыя. Гэта вялікая вера, што горы з месца кратае...

КОСТУСЬ. Ах, ізноў дэклямацыя!... згадзіся-ж ты са мной, што гэта толькі пустыя словы, фантазыя... Ну, але я цябе разумею,—гэтая твая „вера“—гэта ёсьць патрэбны для твайго жыцьця наркотык. Адзін п‘е гарэлку, іншы курыць оп‘юм, трэйці нюхае кокаіну, а ты—хэ-хэ-хэ—маеш сваю „веру“. І тая толькі рожніца між п‘яніцай ці кокаіністым і табой, што тыя не вымагаюць для сябе пашаны альбо ўдзячнасьці ад патомства, а ты хочаш, каб табе—хэ-хэ—паставілі памятнік... Але нашто? Ці так, ці сяк—памрэш і ня будзеш мець магчымасьці пахіліць галаву перад сваім рэзьбяным партрэтам.

ВАСІЛЬ. (знэрвавáўшыся крыху). А ты ня можаш устрымаць свае нэрвы і злосна пачынаеш кусацца?

КОСТУСЬ. Не, я ня кусаюся, але толькі кажу, што думаю... Ты добра ведаеш, што ты для іншай багацейшай культуры, дзе былі ўжо свае Шэкспіры, Мольеры, Кальдэроны, або Міцкевічы ці Пушкіны—мала мог-бы зрабіць і загінуў-бы ў моры забыцьця, а тут для беларусаў ты будзеш „вялікі слаўны поэт“ ха-ха!... Вось ключ усей справы! Вось дзеля чаго ты ляціш з рагацінай на крыльля ветранога млына.

ВАСІЛЬ. (Злосна). Ня ведаю, за што хацеў ты мяне балюча ўкусіць, але табе гэта не ўдалося. Як злы сабака ты кінуўся на мяне, але ўчапіўся зубамі толькі за вопратку мне... Але каб з табою сквітавацца, скажу ў свой чарод, што я думаю аб табе: сумленьне цябе мучыць, што ты нічога ня робіш і спакойна глядзіш, як бяруць душы ў палон, іронічным сьмехам стараючыся заглушыць голас свайго сумленьня. Можа дзеля таго ты і ўцёк з вёскі, каб лягчэй забіць голас душы свае. Але бачу, што ёсьць нешта гэткае што, сядзіць у сэрцы тваім і грызе цябе. Я добра ня ведаю, што гэта, але бачу, што нешта грызе цябе... І я ведаю адно: ты зайздросьціш мне! ты хацеў-бы хоць частку веры маей мець, дзеля таго ты спрэчкі вядзеш са мной. Хто ведае, можа на самым дне душы тваей гэта вера ўжо загарэлася, але ты плюеш ува ўласную душу і стараешся загасіць сьвяты вагонь. Ты захінуўся ў дурны плашч пэсыміста-сцэптыка і праз нейкую дзіўную злосьць хочаш атрутаю свайго штучнага няввер‘я атруціць мой дух. Скінь плашч! далоў чорную маску з твару, будзь чалавекам сёньняшняга дня: жыві, працуй, змагайся!

(Працяг будзе).

струсілі: яны баяліся, што ў істную-чых міжнародных умовах у іх ня хопіць сіл дзеля гаспадарсьцьвеннага будаўніцтва. У іх не знайшлося адвагі адмовіцца ад «высокага» апякунства г. зв. дзяржаваў - пераможцаў. У далейшым выніку гэтага вышла тое, што яны адмовіліся адразу ў першы момэнт в а с к р о с ш а е Польшчы ад творчае думкі аб Польшчы н е з а л е ж н а й—у сапраўдным разуменьні.

Нічога, праз гэта, дзіўнага, што яны павінны былі затым пераняць і асвоіць усё тое, чым напоўнена атмосфэра звычайнага буржуазнага гаспадарства.

Жадаючы ўзмацніць сваю пазыцыю, першаю справаю пачалі павадыры П. П. С. згінаць у кірунку компромісу з польскаю шляхтаю і буржуазіяй. Дзеля гэтага компромісу, дзеля таннае популярнасьці нацыяналістычна настроеных масаў, яны адразу і бяз хістаньняў ступілі на шлях ваяўнічага імпэрыялізму.

У агуле, ўвайшоўшы ў конфлікт з сабою, яны, няўхільна павінны былі згубіць грунт пад нагамі: роля партыі П. П. С., была вельмі хутка зьведзена да ролі партыі п а л і т ы ч н а е.

Раз ступіўшы на гэты шлях і жадаючы, ізноў-жа, як-бы там ні сталася, захаваць за сабою кіраўніцтва справаў у дзяржаве, партыя П. П. С., усё больш і больш заляцалася польскім велікадзяржаўным нацыяналізмам...

Быў час, калі польскія паўстанцы зьвярталіся да Гэрцэна за падтрыманьнем. Раней, чымся адтрымаюць яго, яны забавязаліся даць народам, што засяляюць г і с т а р ы ч н у ю Польшчу, поўную волю самаазначэньня“.

Цьвердзячы далей, што ў рэзультаце „бескарыснае“ дружбы, якую выказала расейская рэвалюцыйная дэмократыя да польскага народу (?), аўтор «Прикарп. Русі» заяўляе, што:

„на чародны дзень пасьля вызваленьня Польшчы партыя польскіх соцыялістых першая ў Польшчы падняла руку проці расейскай рэвалюцыі (?). Зрабіла гэта ў імя яўна карысных, захватных мэтаў. То-ж ніхто іншы, як павадыры П. П. С. былі за паход на Кіеў, гэтак сама ніхто ня можа запомніць таго, што ў той час, калі павадыр гэтае партыі быў за віцэ-прэмьера ў польскім урадзе, мы былі сьведкамі архірэакцыйнага рэжыму і страшэнных палітычных прасьледаваньняў.

Соцыялістычна сьвядомыя і незаражаныя псыхозам шовінізму элемэнты партыі зразумелі з самага пачатку, што тут трэба бароцца проці атмосфэры ідэйных і тактычных праціўнасьцяў.

Выразамі гэткай барацьбы зьявілася опозыцыя групы Жарскага, што сказалася на першым аб'яднаным конгрэсе ў Кракаве, затым опозыцыя Сохацкага й павадыроў профэсыянальных арганізацыяў Зялінскага і Баранецкага, што сказалася ізноў на конгрэсе ў Варшаве. Абедзьве гэтыя групы сягоньня ўжо ня ўходзяць у склад партыі. З таго часу выходзяць з партыі ўсё больш і часьцей. Выйшлі д-р Дробнэр, Ланцуцкі і шмат іншых — ня толькі адны камуністыя.

У профэсыянальных арганізацыях Польшчы больш, як паўмільёна рабочых, тады як партыя П.П.С. мае сягоньня ўсяго 50.000 сяброў. Ці-ж ня лепшая гэта ад'знака слабасьці?

Таксама ў гэтым годзе на конгрэсе ў Лодзі (23—27 ліпня) сказалася опозыцыя. Праўда яна была, дзякуючы ранейшым руплівым выключэньням з партыі каго трэба, „худасочнаю“ па сутнасьці, аднак-жа яна будзе этапам у процэсе расколу, пачатага на кракаўскім конгрэсе.

Здаючы сабе справу аб хваробе свае партыі, апошні конгрэс рызыкнуў, дзеля падняцьця настрою зрабіць „рэвалюцыйны“ шаг: ён рашыў аканчальна выбыць з 2-га Інтэрнацыяналу. Крыху нязвычайным толькі ў гэтым рашэньні зьяўляецца тое, што адным з галоўных аргумэнтаў гэтага рашэньня быў п а т р ы я т ы з м.

Напярэдадні конгрэсу намячалася паступіць у 2½ Інтэрнацыянал. Нельга было, аднак, гэтага зрабіць, бо апошні ня прыняў запрашэньня быць на конгрэсе і вельмі строга асудзіў П. П. С. за удзел у палітычных прасьледаваньнях.

У вось, прарынкаваўшы умовы адзінага спагаднага момэнту ў 18 годзе, трацячы затым паступова з дня ў дзень у сябе ўдому веру, партыя П.П.С. апынулася, нарэшце, ў сучасны момэнт так-жа па-за усякаю інтэрнацыянальнаю солідарнасьцю“.

## Аб нас гавораць.

Расейская і украінская прэса ў Амэрыцы набірае ўсё болей і болей зацікаўленасьці беларускімі справамі і жыцьцём. Апроч „Амер. Извест.“, якія амаль ні ў кожным нумары зьмяшчаюць стацьці і заметкі, пасьвячоныя гэтаму, дужа многа пішуць: „Українські робітничі вісти“, „Сво-

## Народныя песьні Горадзеншчыны *).

# САЛАВЕЙ.

— Чым ты, салавейку, рано ня ўставаеш,
Рано ня ўставаеш, песьняў ня сьпяваеш?
Відно, салавейку, голасу ня маеш?
— Ой страціў я голас ў вішнёвым садочку,
Ў вішнёвым садочку, ў зялёным кусточку.
— Чым ты, кавалеру, ня п'еш, ня гуляеш?
Відно, кавалеру, долі ты ня маеш?
— Ой страціў я долю праз сваю сваволю,
Ня так праз сваволю, як праз дурны розум.
Ў вішнёвым садочку брат з сястрою ходзіць,
Брат з сястрою ходзіць хіценька гаворыць:
— „Аддам це, сястронка, замуж маладую;
Замуж маладую, ў дзярэўню чужую;
Ў дзярэўню чужую, ў багатую хату;
Ў багатую хату, ў вясёлу дружыну;
Ў вясёлу дружыну, на шыроку ніву“.
— „Па чужой дзярэўні люблю пахаджаці,
У багатай хаці люблю панаваці,
Ў вясёлай дружыні люблю жартаваці,
На шырокай ніві люблю жыто жаці“.
Новая дзярэўня ужэ пастарэла,
Багатая хата да ўжэ пабяднела,
Вясёла дружына да ўжэ пасмутнела.
Праходзіць нядзеля, праходзіць другая, —
На трэйцю нядзелю брат каня сядлае,
Ён каня сядлае, за двор выяжджае,
За двор выяжджае, сястру сустрачае.
— „Сястронанька мая, ці жыва - здарова“
Ці жыва-здарова, ці добрая доля!
— „А я свае долі ня сулю нікому;
А я свайго жыцьця нікому ня зычу:
Кашуленька бела кроўю акіпела;
Хвартушок бяленькі ад сьлёзак макрэнькі.

*Запісана са слоў Г. Бобрык,*
маладой кабецыны, ў в. Рымуцеўцы, Масалянск.
вол., Горадзен. пав. 20. 1. 1921 г.

*) Народныя песьні цікавы ў сваім, незакранутым выглядзе і таму мы тут падаем іх з орфографіяй запісчыка. *Рэд.*

бода“, „Штоденні вісти“, „Америка“, „Наша Правда“, „Русский Голос“. Есьць стацьці болей 300 радкоў.

Асьвятляюцца ўсе бакі нашага жыцьця, як у Савецкай Беларусі, так і ў часьці, якая знаходзіцца пад Польшчай.

Найхарактарнейшым для паказаньня адносін вышэйсказанае прэсы да нашага пытаньня і да лёсу беларусаў, якія застаюцца па гэтым баку лініі рыжаскага міру можна лічыць канчатак аднаго з артыкулаў газэты „Америка“—(„Рыжаскі мір і граніцы“):

... „насільнае ўдзержаваньне няпольскіх земляў пры польскім нацыянальным арганізьме адабʼецца шкодліва перш усяго на ўнутраным ходзе дзяржаўнага польскага жыцьця, дзе ўся увага і энэргія польскага народу і ўраду будзе йсьці, замест прадукцыйнай творчай працы для паднясеньня польскай дзяржавы і народу, на паліцэйскі надзор надняволенага украінскага, беларускага і літоўскага элемэнту.

Ці падумалі над гэтым польскія дыплёматы і польскае грамадзянства, падпісваючы Рыжаскі дагавор? А калі так, то ці запраўды думаюць, што так лёгка новым Андрусоўскім дагаворам скрапляць свой дзяржаўны арганізм? Ці не забыліся навукі з гісторыі даўняга дагавору з XVII сталецьця?“

## Хай лічбы сьведчаць

З прычыны выступленьня гох-патрыятычнага публіцыста ў адным з нумароў „Rzeczpospolitej“ вядомага п. І. Обста аб тым, што Віленская Беларуская Гімназія нібыто мае сваімі вучнямі амаль што выняткова жыдоў, а вучыцелямі—расейцаў, што вядуць лекцыі ў расейскай мове, Канцэлярыя Гімназіі пісьмом, надрукованым у некаторых штодзенных тутэйшых газэтах („Dzwon Litwy“, „Gazeta Krajowa“ за 17 г. мес.) даводзіць да ведама грамадзянства, што ў Беларускай Гімназіі:

1) **Лік вучняў:**

| | |
|---|---|
| Беларусаў | 250 |
| Палякоў | 2 |
| Ліцьвіноў | 4 |
| Жыдоў | 94 |
| Расейцаў | 7 |
| Немцаў | 7 |

**Ў тым ліку:**

| | |
|---|---|
| Хрысьціян | 268 |
| Іншых рэлігіяў | 96 |

2) **Лік вучыцялёў паводлуг нацыянальнасьці:**

| | |
|---|---|
| Беларусаў | 19 |
| Расейцаў | 2 |
| Жыдоў | 1 |
| Немцаў | 2 |
| Украінцаў | 1 |

Далей Канцэлярыя Гімназіі заяўляе ў пісьме:

„Як выцякае з вышэйпаданых лічбаў, вучыцельскі й вучнёўскі склад не пацьвярджае словаў п. І. О. А што датычыць выкладовай мовы, дык у прайшоўшым годзе да 4-й клясы ўлучна ўсе прадметы выкладаліся пабеларуску, а ў старшых клясах толькі некаторыя прадметы, напр. матэматыка, выкладаліся парасейску, таму, што ня было школьных падручнікаў. А ў годзе бягучым у с е прадметы, ўва ўсіх клясах, будуць выкладацца толькі пабеларуску“.

## Ня клеіцца.

Нейкая „Варшаўская Царкоўная Рада“ мела сабраць 14 г. м. ў Варшаве праваслаўны зьезд, які для нас беларусаў мог-бы быць толькі надта шкадлівым у сэнсе палітычным. Бо, пры вядомым масквафільскім настроі нашага праваслаўнага духавенства, прадстаўнікі яго цьвярдзілі-б адно, што ніякіх беларусаў няма, а ёсьць, ведама-ж, «русскіе» ў нашым краі.

Але самы зьезд, як відаць, ня надта клеіцца, бо чуваць няпрыхільныя галасы навет і сярод самога духавенства праваслаўнай цэрквы.

Вось што заяўляе на шпальтах «Украінскай Трыбуны» епіскап валынскі Діонісій аб зьездзе:

«Газэты паведамляюць, што на склісаньне зьезду адтрымалі благаслаўленьне Епіскапа Уладзіміра і запрашэньне з благаславенствам з боку іншых епіскапаў у Польшчы. Калі-б у газэтных вестках ня было апошняга пункту аб запрашэньні і благаславенсьцьве другіх праваслаўных епіскапаў Польшчы, дык магчыма, што я і ня выступіў-бы аб зьездзе, але калі гэты пункт зьмешчаны,—не ўважаю магчымым маўчаць, каб маўчаньне ня выклікала якога-колечы непаразуменьня. Я—епіскап, загадчык праваслаўнай Валыні, ў якой ёсьць да двох мільёнаў праваслаўных украінцаў, больш як 800 прыходаў, 10 манастыроў і сьв. Пачаеўская Лаўра,—заяўляю, што майго благаславенства на вышэйпаказаны зьезд не даваў.

У часе майго пабыту ў пачатку чэрвеня ў Варшаве, я адтрымаў ад Варшаўскай Праваслаўнай Рады прашэньне благаславіць зьезд і прыняць у ім учасьце. Тады я гаварыў з вельмішаноўным Прадсядацелям Рады. Н. С. Сярэбраньнікаў зусім згодзіўся са мною, што зьезд запраўды склікаецца неканонічнай дарогай і дзеля гэтага, ня можа мець большага значэньня, як звычайны інформацыйны сход, дзеля выясьненьня становішча той ці іншай арганізацыі.

Так і глядзеў я на гэты зьезд, як на прыватную сходку, што ня мае кано-

* * *

Очкі мае сіненькія, бяда ўжо мне з вамі:
Ой там арэ мой міленькі сівымі валамі.
А ён арэ, а ён арэ, на дом паглядае:
— „А ўсе жанке абед нясуць, мая ня думае“.

А ён едзе, адʼяжджае, ня хоча тут быці,—
— „Ой, дай, ты мне таго зельля каб це прызабыці“!

— „Ой на-ж табе таго зельля вышэй пералазу,
Як напарыш, ды напʼешся,—забудзеш адразу“.—
— „Буду парыць, буду піці, кропенькі ня спушчу
Тады я це прызабуду, як очанькі сплюшчу!“

Скрыпка з вярбы, скрыпка з вярбы,
А смычок ды з руты.
Як зайграе ў Рымуцеўцах,
На край,—сьвету чуці.

*Запісана ў в. Рымуцеўцы, Масалянскай вол. Горадзенскага павету са слоў Г. Бобрык.*

20. 1. 21.

* * *

— „Каб я мела пасажаньку карову рыжую,
Та я-б пашла ўвосень замуж ў дзярэўню чужую“.
— Адазваўся млоды хлопец: „Я сам буду браці;
Я ня буду пасажаньку з цябе вымагаці“.
— „Ой ня будзеш, млоды хлопец, та есьць ў цябе маці:
Яна будзе пасажаньку з мяне вымагаці!“
— „Ўставай! ўставай, сынавая, бадай ты ня ўстала!
Жані стаду да грумады, што з дому нагнала!“
— „А я ўстала, заплакала: няма чаго гнаці.
Памёр ацец, ўмярла матка, няма каму даці“.
Ў полі стаіць цэрква, стаіць і капліца.
Ой там ідзе мая матка, як ясна зарніца.
Ішла матка, ішла матка, на парозі ўпала.
— „Ляжыць, ляжыць мае дзіця на покуці ўбрана“.
— „А мае-ж ты, дзѐцятко, ў чом так правініло?
Мусі, мае ты, дзѐцятко, тры рокі хварэло?“
— „Ой ня знаю, мая матко, як мяне ўрадзіла,
Так ня знаю, мая матко, ў чом я правініла.

*Запісана ў в. Рымуцеўцы, Масалянскай вол., Горадзенскага павету.*

27. 12. 1920.

Падаў **Мікола Чарнецкі.**

нічнага значэньня і паставіў у ліку другіх пытаньняў, якія павінны быць разгледжаны на зборах прадстаўнікоў духавенства Валынскай епархіі (што мелі адбыцца ў мяне 21—23 ліпня) і пытаньне аб удзеле Валыні на гэтым зьездзе ў Варшаве.

Між гэтым у праграме зьезду знаходжу пытаньне аб праўным становішчы Праваслаўнай царквы ў Польшчы, аб арганізацыі органаў царкоўна-грамадзкіх, аб арганізацыі прыходаў, аб справах грашавых Праваслаўнай царквы, а нат і іх падзеле. Зразумела, што гэтыя пытаньні пастаўлены ня толькі дзеля формы, але ў гэтых пытаньнях будуць вынесены пастановы, якія захоча Царкоўная Рада падаць куды належыць, як голас усей праваслаўнай Царквы ў Польшчы. Хай дарує мне Варшаўская Царкоўная Рада, але я не магу зразумець, хто надаў ёй права быць царкоўнай арганізацыяй для ўсей праваслаўнай царквы ў Польшчы, як і не магу згадзіцца з тым, каб голас неканонічнага зьезду выдаваўся за праўдзівы голас Праваслаўнай Царквы ў Польшчы».

## З Юльяна Тувіма.

(*Вольны пераклад з польскага*).

Прабіўшы неба грозным вокам,
Я п'яны сьвет з ног б'ю, тапчу;—
Ступаючы шалёным скокам,
Я ў даль плыву і ў выш лячу!

І падплывуць ка мне паводкі,
Парве у вір вадаварот,
І будзе гульня і раготкі,
Дзе бурных рэчак пераход.

Даплыўшы—стане лета парна—
І загарыць ад сонца твар,
Я зьмятай сенажацяй гарна
Сатру з гарачых шчокаў жар.

Мне віхар борам ў вочы сьвісьне,
Увалье у губу зык званоў,
Здароўе боль свой з крыкам цісьне,
І разбушуе чорна кроў...

Жыцьцё я лёгка перакіну
На плечы, як зьвярыну шэрсьць,
І у крывава неба кіну
Сваю крычачу, гостру сьмерць.

Вярнусь шалёны і галодны,
Як быццам, к здохлым рой сабак,
Як-бы іглы укол лячобны,
Дзе з сыку нэрваў голых знак...

Мне сьвет палажыцца пад цела,
Як пад сякеру тоўсты пень,
І буду сьніць тагды я сьмела,
Як Бог, тварыўшы першы дзень!.

**Гальяш Ляўковіч.**

## Літоўцы аб беларусах.

— У часопісі Літоўскага Міністэрства Прасьветы „Svietimo Darbas“ (Прасьветная Праца) праф. К. Буга разглядае этымолёгічна рэчныя і водныя урочышчы літоўскіх і беларускіх зямель.

— Ксёндз д-р Пурыцкіс (сучасны міністар заграпічных справаў) у сваёй дысэртацыі: „Die glaubenspaltung in Litauen im 16 J. bis zur Aukunft der Jezuiten im Jahre 1859“. (Freiborg in Schweiz, 1919), дае агляд усіх архіўных дакумэнтаў і граматаў, выкарыстаных ім падчас працы. Зусім поўныя даныя аб норавах таго часу даюць яшчэ неагалошаныя рукапісы з Румшышкаў, Езны і княжняў Віленскай і Ковенскай духоўных сэмінарыяў. Аб гэтым піша праф. Э. В. Вольтэр у Ковенскай газ. „Вольная Литва“.

У журнале „Draugija“ (таварыства) пралат А. Дамброўскі (літэрацкае імя— Якштас) дае досіць месца беларускай кнігапісі. Разглядаючы нарыс Я. Фарботкі „Беларусь ў песьнях“ паважаны, здаўна прыхільны да Беларусаў, крытык зьвяртае ўвагу літоўскіх чытачоў на беларускую справу, мову і літэратуру, на тое, што трэба добра ведаць беларусоў са ўсіх бакоў, і радзіць знаёміцца з беларускай літэратурай.

Кніг і брашур аб беларусах у літоўскай мове нажаль бракуе; за гэты час ад 1819 году выйшла толькі кніжка „Gudų klausimas“ (беларускае пытаньне) Я. Варонкі.

**А. Смаленец.**

# Жыцьцё провінцыі.

КРЫНКІ, Горадз. пав

**Страта беларускага гуртка.**

19 траўня с. г. выпала цагліна з Беларускага гуртка ў Крынках. Памерла Насьця Кішкель беларуская вучыцелька. Насьця Кішкель — гэта адна з дзяўчат у Крынках прынімаўшая самае энэргічнае ўчасьце ў працы гэтага гуртка і праўду трэба сказаць, яна была самая першая з усіх нашых беларускіх працаўнікоў м. Крынак у справах адраджэньня нашай Бацькаўшчыны. Калі, яшчэ за немцамі, зварухнулася беларуская моладзь у розных малых мястэчках і па вёсках, у м. Крынках Насьця Кішкель самая першая праяўляла беларускасьць і рабіла тое, што магло быць яе—і ўсіх нас беларусаў — Бацькаўшчыне карысным. З прыходам палякоў Насьця Кішкель пападае за беларускасьць у турму, дзе яна і згубіла сваё здароўе—прыпалі сухоты. Хутка яе звальняюць. Адкрываюцца Беларускія Вучыцельскія Курсы ў Вільні і Насьця Кішкель з сваім слабым здароўем едзе туды, каб набраць больш энэргіі працаваць для Бацькаўшчыны і быць сьветачам нашым маленькім братом і сёстрам. Школ адкрыць не дазволілі і яна пачынае працаваць у другім кірунку. Трэба прызнацца, што па яе загаду збіраецца Беларуская Моладзь у м. Крынках і дабіваецца ад польскай улады дазваленьня на працу гэтага Гуртка. Па яе загаду ставіліся беларускія спэктаклі. Дзякуючы Насьці Кішкель Крынкі пабачылі беларускія камэдыі і навет драмы, як „Апошняе спатканьне“ і „Раскіданае гняздо“. Непамерная праца і згрызоты ў Гуртку, зусім аднялі яе здароўе і хвароба зусім зламала Насьцю Кішкель і яна павінна была легчы ў пасьцель. 15 траўня ставілі драму Янкі Купалы „Раскіданае гняздо“ і калі прышлі да яе з весьцямі аб тым, што добра гралі, Насьця Кішкель ляжала ў пасьцелі і сабраўшы усе свае сілы крыкнула: „Няхай жывуць беларускія артысты“. 12 траўня, акружаная сябрамі гуртка Беларускае Моладзі, Насьця Кішкель аддала Богу душу. З вялікім жалем і сьлязьмі на вачох з харугвямі ў руках сябры і сяброўкі панясьлі цела на магілкі, а па дарозе занясьлі ў цэркву, дзе была адслужана абедня па нябошчыцы. У часе абедні ўвесь Гуртоk стаяў з запаленымі сьвечкамі ў руках. З царквы панясьлі гроб на магілкі. На магілу Насьці Кішкель у падзяку сябры і сяброўкі Гуртка палажылі вянок з стужкамі, на каторых было напісана: „На памяць сяброўцы Насьці Кішкель ад Беларускай Моладзі 1921 году 19 мая“. „Няхай будзе табе, дзеячка беларуская, лёгкая зямелька родная!“ **І. Б.**

### ВЯЛЕЙКА.

Горад наш невялічкі і невялікае цяпер яго значэньне. Каб зварушылася-б тутэйшая маса жыхароў — усё чыстыя беларусы,—толькі тады жыцьцё пашло-б тут буйней уперад. Але маса пакуль што ў большасьці сьпіць, або толькі вочы праціpae. Школьным інспэктарам ёсьць тут п. Уладыслаў Беганьскі. Ён хоча быць справядлівым для усіх нат для беларусаў, але браты, хто-ж будзе чакаць, пакуль мы прабудзімся? Ніхто за нас працаваць ня будзе. — Кожны вядзе сваю работу і вось мае быць у Старой Вілейцы адкрыта гімназія. Калі мы, беларусы ня хочам праспаць усіх магчымасьцяў, бярэмася хутчэй да працы.

### ГОРАДЗЕН.

Канец ліпня прынёс нам жыхаром Горадна вялікую шкоду: некалькі сот згарэла дамоў, каля Рыбнага Рынку. Пажар абапёрся аб муры магістрату і школы і аграпічыўся гэтаю толькі шкодаю. — Пагода была ціхая, толькі ад жары час ад часу вецер падымаўся. — З агнём змагаўся пажарны абоз. Аказалася, што пажарныя кішкі дрэнна пасуюць да кранаў і даволі кароткія. Многа памагло войска. Помач з Беластоку падасьпела даволі позна. Пацярпелі ад пажару найбольш жыды. Апроч матар'яльнай страты, панясьлі яны і моральную: горадзенскія жыданенавідцы павялі ў газэтах вайну процiў жыдоў, кідаючы з лёгкай рукі абвінавачэньні іх у бальшавіцкай агітацыі.

## ДЗЬВІНСК.

У Беларускім адраджэньні можна адчыніць новую ружовую страніцу. Дзьвінск са шпаркасьцю маланкі пачынае ўставаць ад векавога сну. Вучыцельскія курсы, якія зразу былі пад вялікім сумляваньнем, набіраюць вялікае сілы. Штодня прыбывае і прыбывае людзей. Кожны дзень прыходзіцца мяняць салю. Цяпер ходзяць блізу 70 чалавек і яшчэ прыбывае. Трэба паглядзець, з якою уважнасьцю слухаюць тут мову беларускую і нахацяючуюся ў ей праўду. Гадзіна праходзіць мінутай. А як старанна пішуць! І гэта вядома, бяз цені якога афіцыяльнага, ці пабочнага патрэбаваньня да гэтага ўлады. Гэта дана на волю і ідзе таму, што насьпеў час.

Залажылася драматычная трупа, чуць ня з 30 чалавек, разабраны ролі і старанна іх навучаюцца з п'есы «На Антокалі». Есьць артысты, куплетысты, комікі. Па руках і вуснах ходзіць шмат расказаў з пачынальнае пары нашай новай літэратуры і розныя гутаркі, якія яшчэ не друкаваліся.

Залажыўся моцны хор, які вучыцца, як песьняў ужо з нотамі, так і падбірае рэпэртуар з ваколічных песьняў. Духовая музыка зьбіраецца граць популы з беларускіх песенных мотываў. Падбіраецца на ноты музыка да песьняў.

Моладзь расьпявае беларускія песьні, гымны. Павышаны настрой у вучыцельства.

Беларускасьць захапляе ўсё большыя і большыя кругі. Чувадь спрэчкі аб Беларусі на вуліцах, у кавярнях, даходзіць да вострых сваркаў.

Прыемна ад'значыць, што аднальково зацікаўлены, як каталікі, так і праваслаўныя. У еднасьці сіла!

---

Горад цяпер лічыць найбольш трэцюю частку жыхароў перадваенных. Жыцьцё ў Дзьвінску ў тры разы танейшае, як у нас. Разумеецца, што заработкі меншыя, бо абычная рэч, што яны залежаць ад даражыні жыцьця. Чуваць аднак і тут нараканьні, бо гдзе іх няма? У тым, што пішуць польскія газэты аб крыўдах палякоў з боку латышоў, шмат няпраўды і нацяжкі. Эндэкі яшчэ ёсьць у Лацьвіі, а хто з імі будзе магчы жыць?! Як прыклад фальшывага гоману, успомнім тое, што калі ў аднэй школе польскай замянілі нейкага вучыцеля, лішне чырвонага камуніста, дык і з яго ў Польшчы зрабілі мучальніка за польскасьць у Лацьвіі. Вось як бывае. Беларусы ў Дзьвінску, Богу дзякуй, пачынаюць рухацца.

N.

---

## ПА ДЗІСЬНЕНШЧЫНЕ.

Лёс змусіў мяне прайсьці пяхотам амаль ня ўсю Дзісьненшчыну. Але ня шкода цяпер ні ног, ні згубленага часу. Гэта была вандроўка па дзіўнай мясцовасьці, дзе розных народаў лес раз-у-раз зьмяняўся палямі з збожжам, якое ў гэтым годзе над'звычайна ўрадзіла, а між імі вазёры: круглыя, прадаўгаватыя, кантовыя, цёмныя, блішчастыя. Але ня места тут апісанью прыроды. Хачу троху сказаць аб беларускай сьвядомасьці, якая расьцвітае тут буйным цьветам. Тут няма месца зьмешаваньню каталіка з паляком, а праваслаўнага з рускім. Праўда пад рускімі тут разумеюць стараверaў, розьніца ў абрадах каторых і іх адчужанасьць ад агульнай беларускай масы надта б'е ў вочы і, як нельга, памагае ўсьведамленьню праваслаўных. Каталіцкая маса болей сьвядомая з ідэйнага боку. Праца беларускіх ксяндзоў, іх засеў моцна прыняўся ў народзе і дае вялікі плён. Цікава зазначыць, што найболей сьвядомымі і самымі гарачымі патрыётамі зьяўляецца засьцянковая шляхта. У мястэчках, каля касьцёлаў ня ўчуеш польскай мовы – няма моды, абзавуць мазурам, або вялікім магнатам. Закладаюцца „гурткі моладзі", але ўлада прымушае вясьці справы папольску, а гэта, пры агульным настроі адбівае, ўсялякую ахвоту.

Цікава ад'значыць м. Пагост. Там ёсьць касьцёл, цэрква праваслаўная і зачыненая старая уніяцкая цэрква. Маладзеж, як праваслаўная, так і каталіцкая сходзіцца каля апошняе, як знаходзячайся пасярэдзіне мястэчка і іх сьвядомаму веку дорага маленкая, паросшая мохам, цэркаўка.

Беларускія гнёзды па ўсей краіне і духова зьвязаны адны з аднымі. Цікавы павет, цікавыя людзі.

**Ігналь Атожылка.**

---

# Беларуская хроніка.

Уступныя экзамены й напраўкі у 1-й Віленскай Беларускай Гімназіі начнуцца пасьля 1-га верасьня.

---

„Т-ва Беларускае Школы" выдала гэткую адозву:

### ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСЫ!

Палажэньне асьветы сярод Беларускага народу нязвычайна цяжкое. Некалькі мільёнаў беларусаў маюць адну толькі сярэднюю школу і некалькі сот пачатковых школ. І гэтыя школы маюць больш ворагаў, як прыхільнікаў. Маладое пакаленьне гадуецца бяз ніякае адукацыі. Людзі з кожным годам балей і балей дзічэюць.

Каб абараніць свой народ ад духоўнай і эканамічнай галіты і няволі і вывесьці яго да сьветлага лепшага жыцьця, трэба ўсім беларусам прыкласьці сваю руку да беларускай школьнай справы.

Маючы гэта наўвазе, закладзена, зацьверджаная ўжо дэпартамэнтам унутраных спраў, „Т-ва Беларускай Школы".

Мэта таварыства пашыраць асьвету ў беларускім нацыянальным духу.

Т-ва, паміж іншым, мае права: 1) Закладаць, утрымліваць і пашыраць народныя школы, вучыцельскія курсы, сэмінары, вышэйшыя і сярэднія школы і інш.; 2) закладаць народныя дамы; 3) выдаваць і пашыраць школьныя кнігі і газэты; 4) даваць вучанікам стыпэндыі, падмогі і розную навуковую помач.

Паводле статуту могуць усюды закладацца гурткі і аддзелы Т-ва.

„Т-ва Беларускай школы" стаіць у старане ад усіх палітычных партыяў і кірункаў, адзінаю яго задачаю ёсьць разьвіцьцё беларускіх школ і беларускай асьветы наагул.

Кожны беларус і беларуска павінны запісацца ў т-ва і наказаць сваім знаёмым, каб запісаліся.

Як запішацца даволі, тады будзе скліканы агульны сход, які выбераць Раду т-ва і пачне конкрэтную працу.

Запісавацца просім у канцэляры беларускіх вучыцельскіх курсаў (Вострабрамская 9) штодня ад 10—2 гадзіны ў дзелавода Лістапада.

Ад імя закладчыкаў **Ант. Луцкевіч.**
**М. Кахановіч.**

8. VIII. 21. Вільня.

---

## НОВЫЯ КНІЖКІ.

Ў пачатку бягучага месяца выдавецтвам Ў. Знамяроўскага выпушчана 2-е выд. кніжкі „Кароткі нарыс гісторыі Беларусі" У. Ігнатоўскага.

---

Тыдзень таму выйшаў з друку школьны падручнік „Родны край" трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка да чытаньня, ўложаная Л. Гарэцкаю.

---

Гэтымі днямі выдрукуецца „Беларуская правапісь з практыкаваньнямі" **Янкі Станкевіча.**

---

# Цікавыя лічбы.

Польскае Тэлеграфнае Агенцтва паведамляе, што з ліку ўцекачоў, што радзіліся ў Віленшчыне, Горадзеншчыне і часьці Меншчыны, ўлучаных у склад Польшчы, згодна з Рыжскім дагаварам, прапушчана за чэрвень месяц у межы дзяржавы 13.789 чалав. Па нацыянальнасьцях уцекачы гэтыя разьдзяляюцца гэткім чынам: 5% палякоў, 6% жыдоў і 89% беларусаў. Гэткія ведамасьці польскае пагранічнае камісіі. Яны вельмі выразна сьведчаць аб складзе насяленьня ў вышэйсказаных мясцовасьцях. Паходзячы з польскіх офіцыяльных крыніцаў яны тым самым найлепей асьвятляюць тэндэнцыйнасьць навейшае польскае статыстыкі, што адкідае амаль што самы факт істнаваньня беларусаў у сказаных мясцох, альбо прызнае іх толькі нацыянальнай меншасьцяй.

Падумаць, што польская пагранічная камісія наўмысьля рэестравала „па-

лякоў" беларусамі, альбо дапусьціць, што палякі менш, чымся іншыя нацыянальнасьці старанца вярнуцца ў Польшчу, вельмі трудна.

(Бел. прэсбюро).

# Палітычная хроніка.

— Справа аб Верхняй Сьлезіі Вярхоўнаю Радаю ня вырашана і передаецца ў Раду Лігі Нацыяў. Сярод французаў чуваць галасы аб тым, каб зьвярнуцца да амэрыканскага прэзыдэнта, як да трацейскага судзьдзі.

— У Люксэмбургу, пры учасьці ўраду, пачаўся 21-ы конгрэс міру. Прыслалі сваіх прадстаўнікоў: Францыя, Нямеччына, Англія, Амэрыка, Бэльгія, Аўстралія, Швэцыя і Данія.

— Састаўленьне акту, якім Вярхоўная Рада перадае справу аб Верхняй Сьлезіі ў Лігу Нацыяў даручана камісіі спэцыялістых. Рэч у тым, што арт. 11-ты статуту Лігі Нацыяў ня зусім падходзіць да данага выпадку і, мабыць, дзеля юрыдычнага абаснаваньня перадачы патрэбна будзе згода Нямеччыны і Польшчы.

— Паводлуг вестак з Велікаросіі, голад там даходзіць да нячуванай меры. Уцякаючы ад голаду, насяленьне ўвесь час пакідае дзяцей на дарогах і палёх.

— Польская Рада Міністраў пастанавіла замкнуць усходнюю граніцу, дзеля таго, што вывазу прадуктаў у Расею іначай спыніць нельга.

— Прыбыўшыя да Баранавіч уцекачы з Прыуральскага краю Расеі расказваюць, што масы галодных уцякаюць у Сыбір і на Захад. Часта бываюць крывавыя спатычкі галодных натоўпаў з вайсковымі аддзеламі, што хочуць загарадзіць ім дарогу.

— У Меншчыне бальшавікі рэквізуюць і вывозяць масаю ў глыб Расеі, нават не малочанае збожжа, а гэта выклікае вялізарнае абурэньне народу. На Украіне з гэтае прычыны таксама неспакойна.

— Амэрыканскі Чырвоны Крыж у Рызе адтрымаў на прайшоўшым тыдні 8 вагонаў харчоў, як першы транспорт для галоднага насяленьня Расеі.

— На румынскай граніцы сабралася шмат жыдоўскіх уцекачоў, якія ня могуць ніяк перайсьці ў Румынію, бо граніца моцна пільнуецца, а румынскія патрулі страляюць да кожнага, хто прабуе перайсьці яе.

— Цэнтральная Выканаўчая Рада саветаў выдала распараджэньне аб адмене натуральнага падатку збожжам у мясцох, абнятых голадам.







## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры“** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 150 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік“**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна—„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры,** адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»,** адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца“,** трэцяе чытаньне для беларускіх пачаткавых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі,** укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

Апрача таго, перадрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка“** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.

**Францішк Аляхновіч.—Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.

**Л. Гарэцкая. — „Родны Край“**— трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Цана 150 мар.

Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. А. Клецкіна. Рэдактар Выдавец **ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.**